# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 3 (62) Люты 2012 г.

## Пётар Іваноў ня змог пераканаць судзьдзю Віцебскага аблсуду ў сваёй невінаватасьці




15 лютага ў Віцебскім абласным судзе разглядалася касацыйная скарга Пятра Іванова. Актывіст абскарджваў прысуд, вынесены ў адносінах да яго 27 студзеня судом Кастрычніцкага раёну Віцебску. Былы марскі афіцэр паспрабаваў давесьці судзьдзі аблсуду незаконнасьць свайго затрыманьня напярэдадні Калядаў і зьмяшчэньня на трое сутак у ІЧУ. Ён прасіў зьвярнуць ўвагу на тое, што абвінавацілі яго на падставе сфальшаванага пратаколу, які быў складзены заднім днём з парушэньнем працэсуальных нормаў.

Пётар Іваноў таксама адзначыў, што яго віна ў нібыта зьдзейсьненым дробным хуліганстве - нецэнзурнай лаянцы ў публічным месцы - так і не была пацьверджаная бясспрэчнымі доказамі. Больш таго, падчас разгляду справы ў Кастрычніцкім райсудзе выявіліся шматлікія супярэчнасьці і блытаніна ў паказаньнях сьведкаў-міліцыянтаў, на падставе якіх была прынятая пастанова аб прыцягненьні актывіста да адміністрацыйнай адказнасьці.

Аргумэнты Пятра Іванова і ягонага абаронцы не “пераканалі” судзьдзю Ірыну Смалякову. Яна абвясьціла, што раней прыняты прысуд у дачыненьні да яго застаецца бязь зьменаў, а яго скарга - без задавальненьня.

## Міліцыя затрымала распаўсюдніцу газэты «Наш Дом инфо»

26 лютага каля 19 гадзін вечара ў Віцебску па адрасе вул. Церашковай, дом 14 кор. 1 супрацоўнікамі міліцыі была затрыманая добраахвотная памочніца грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Ганна Гадлеўская. Валантэрка распаўсюджвала бясплатную газэту «Наш Дом инфо». Нумар «Інструкцыя па эксплюатацыі дэпутата» прысьвечаны правам выбаршчыкаў і абавязкам дэпутата і падрыхтаваны ў межах кампаніі «Дэпутатаў - да адказу!»



Супрацоўнік міліцыі быў бяз формы, ён паказаў пасьведчаньне і выклікаў па тэлефоне нарад міліцыі. Супрацоўнікі міліцыі, якія прыбылі, даставілі актывістку ў Кастрычніцкі РАУС, склалі пратакол аб адміністрацыйным парушэньні нібыта за незаконны распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі. Міліцыянты канфіскавалі ў актывісткі 430 асобнікаў газэты. У РАУС Ганну Гадлеўскую пратрымалі амаль 3 гадзіны: міліцыянты доўга пералічвалі газэты.

Кіраўніца кампаніі Вольга Карач адзначае, што гэта ня першае гэткае затрыманьне: «Зусім нядаўна супрацоўнікі сілавых структур (міліцыянты, супрацоўнікі ДАІ і КДБ) сумесна “прэсавалі” журналістаў і распаўсюднікаў газэты “Віцебскі кур'ер”. Цяпер у зоне павышанай увагі “Наш Дом инфо”. Я зьвязваю гэтае затрыманьне са зьместам нумару - ён прысьвечаны барацьбе выбаршчыкаў супраць дэпутатаў, якія не выконваюць ні свае перадвыбарныя абяцаньні, ні свае абавязкі. Для цяперашніх слугаў народу падобныя інфармацыйныя матэрыялы ўяўляюць рэальную небясьпеку, бо яны могуць справакаваць хвалю скаргаў і зваротаў. А ўлічваючы нядаўнюю заяву Лукашэнкі, які адзначыў, што ў парлямэнт патрапяць толькі дэпутаты “без сучка і задзірынкі ў сваёй працы з насельніцтвам, у выбарчых акругах», народныя выбраньнікі са скаргамі ад насельніцтва проста пазбавяцца сваіх крэслаў».

# Жонка Каваленкі: Сяргей кажа, што будзе галадаць да канца




28 лютага ў Віцебскім сьледчым ізалятары зь вязьнем Сяргеем Каваленкам сустрэлася ягоная жонка Алена. Алена Каваленка: «Стан у яго жахлівы, скажу шчыра, але ён не намераны спыняць галадоўку. Сказаў, што тое, што ён раней пад пагрозамі і ўгаворамі пачынаў есьці раз на дзень, ён лічыць ганьбай для сябе і перад тымі людзьмі, якія яму паверылі, таму зараз ён не саступіць са свайго шляху і пойдзе да канца.

Месяц ён піў толькі ваду, не прымаў ніякай ежы, а з 17 студзеня — пад пагрозамі і зьдзекамі мэдыкаў і супрацоўнікаў СІЗА — ён пачаў есьці раз на суткі і еў цягам 20 дзён. Гэта вельмі папсавала яму здароўе. Потым, з 8 лютага ён зноў адмовіўся ад гэтага аднаразовага прыняцьця ежы, працягнуў поўную галадоўку, і перадачы для яго не прымалі. А напярэдадні суду, за тры дні ён абвясьціў сухую галадоўку і трымаў яе пяць дзён. Зараз галадоўка працягваецца.

Я паспрабавала яго адгаварыць, але Сяргей папрасіў мяне не рабіць гэтага. Ён схуднеў амаль на 30 кілёграмаў. Косткі, абцягнутыя скурай. Нават сядзець цяжка, бо зусім няма тлушчавай праслойкі пад скурай. Кажа, што галава кружыцца і сэрца пачынае балець, гэтак сама і ўнутраныя ворганы.

Пра ўмовы апавёў, што адразу трымаюць у ізаляцыі, аднаго. Нават на калідоры акружаюць міліцыянты і не даюць ні з кім размаўляць. Камэра малая, толькі ляжаць ды сядзець магчыма, нават не паходзіш па ёй. Сказаў, што камэра меншая, чым карцэр. Праўда, на шпацыры раз на дзень выводзяць на адну гадзіну. Мэдыкі яго не аглядаюць, ён ад іх аглядаў адмовіўся, бо не давярае.

Заклікаў усіх рабіць акцыі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Да Дня Волі і ўвогуле, у тым ліку і ў ягоную падтрымку. Сказаў, што Беларусі патрэбная не рэвалюцыя, бо гэта клясавае паняцьце, а нас ня трэба дзяліць паводле клясаў, а нацыянальнае адраджэньне. Бо дабрабыту ня можа быць без культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, таму трэба шанаваць нацыянальныя каштоўнасьці, сваю гісторыю і мову.

Казаў пра Зянона Пазьняка. Маўляў, тое, што яго называюць палітэмігрантам, гэта памылка. Назваў яго выгнанцам з роднай зямлі. І яшчэ сказаў, што нашу краіну найперш уратуе толькі само грамадзтва. Павінны самі ратаваць сваю краіну, і толькі тады можам спадзявацца на падтрымку іншых краінаў. Ён, у прыватнасьці, найбольш спадзяецца на беларускі народ, кажа, што толькі народ можа дапамагчы яму выйсьці з гэтага цяжкага стану.

Запытаў, чаму Аляксандар Лукашэнка можа быць на волі і выхоўваць свайго сына, а ён, які нічога дрэннага не рабіў, а толькі ўшаноўваў нацыянальную ідэю, ня можа быць зь сям'ёй і выхоўваць свайго сына? Прасіў перадаць сыну, што бацька яго вельмі любіць, а галоўнае, што бацька ўсё рабіў правільна».

24 лютага сябра КХП-БНФ Сяргея Каваленку асудзілі на 2 гады 1 месяц калёні. Калі адняць тое, што ён адседзеў да суду, застаецца 1 год 11 месяцаў.

# Праваабаронца: Судзьдзя прадэманстравала жорсткае і бесчалавечнае абыходжаньне з паміраючым вязьнем

Праваабаронца Валер Місьнікаў абураецца з таго, як распачаўся суд над Сяргеем Каваленкам: "Горшай арганізацыі судовай справы ўявіць нельга. Суд не забясьпечыў права грамадзян бесьперашкодна прысутнічаць на адкрытым судовым працэсе, хаця памеры залі дазвалялі ўмясьціць усіх ахвотных. Усе звароты наконт вырашэньня гэтай праблемы да старшыні суду Ўладзімера Бясьсьмертнага і ягонага намесьніка не далі плёну.

Спадар Бясьсьмертны заявіў, што ў залі не павінна быць шмат людзей, бо судзьдзі Алене Жук ня будзе чым дыхаць. Такі клопат аб судзьдзі прагучаў як зьдзек на тле пакутаў галадоўніка Каваленкі. Факты парушэньняў прынцыпу адкрытага судовага працэсу з боку судзьдзі



Алены Жук і старшыні суду былі адлюстраваныя мною ў кнізе заўвагаў і прапановаў.

Тое, што судзьдзя не задаволіла шматлікія хадайніцтвы з боку родных і адваката Каваленкі аб зьмене меры стрыманьня, дэманструе неабгрунтаваную жорсткасьць зь яе боку і зьяўляецца негуманным і бесчалавечным абыходжаньнем з падсудным, які фактычна памірае. Таксама на судзе высьветлілася, што ад самага пачатку папярэдняга сьледзтва ў працэсе ўдзельнічала непісьменная перакладчыца. Гэта яна сама пацьвердзіла, заявіўшы хадайніцтва аб самаадводзе, якое было задаволенае судзьдзёй. Такім чынам, з самага пачатку крымінальнай справы быў груба парушаны працэсуальны закон, у частцы наяўнасьці належнага спэцыяліста-перакладчыка".

# Праваабаронца Павал Левінаў патрабуе ўзбудзіць крымінальную справу супраць судзьдзі Алены Жук

По выніках працэсу над Сяргеем Каваленкам віцебскі праваабаронца Павал Левінаў накіраваў ва ўпраўленьне сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці 4 скаргі на дзеяньні судзьдзі Першамайскага суду Алены Жук, старшыні суду Ўладзімера Бясьсьмертнага, а таксама мэдыкаў «хуткай дапамогі». Павал Левінаў просіць узбудзіць супраць іх крымінальныя справы.



На думку праваабаронцы, старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску Ўладзімер Бясьсьмертны і судзьдзя Алена Жук наўмысна перашкодзілі законнай дзейнасьці праваабарончай грамадзкай арганізацыі «Беларускі Хэльсынскі Камітэт» («БХК»). Гэта спрычынілася да «істотных парушэньняў правоў і законных інтарэсаў грамадзкага аб'яднаньня». Такі ўчынак утварае склад крымінальна каральнага дзеяньня, адказнасьць за якое вызначаная артыкулам 194 КК РБ.

Павал Левінаў растлумачыў, што на працэсе ён выступаў у якасьці назіральніка ад «БХК». Але 23 лютага ня змог патрапіць у залю, нягледзячы на тое, што прыбыў у суд больш як за гадзіну да пачатку паседжаньня. Паводле словаў супрацоўнікаў міліцыі, усе месцы ў залі судовага паседжаньня былі занятыя. У той самы дзень старшыня "БХК" Алег Гулак пісьмова зьвярнуўся да старшыні суду з просьбай аказаць праваабаронцу садзейнічаньне. Старшыня суду самаўхіліўся ад апэратыўнага разгляду звароту, сьцьвярджае Левінаў.

На наступны дзень ён зноў ня змог трапіць у залю судовага паседжаньня, хаця ў суд Першамайскага раёну Віцебску прыбыў за 20 хвілін да пачатку яго працы і за 1 гадзіну і 20 хвілін да пачатку судовага паседжаньня. Адвакаты Каваленкі 24 лютага заявілі хадайніцтва аб разглядзе звароту старшыні РПГА "БХК" Алега Гулака судзьдзі Алене Жук, што старшынствавала па справе, якая далучыла зварот да матэрыялаў справы, а просьбу аб допуску ў залю судовага паседжаньня прадстаўніка грамадзкага аб'яднаньня - адхіліла.

Праваабаронца Павел Левінаў просіць узбудзіць крымінальную справу ў дачыненьні да судзьдзі Алены Жук і ў сувязі з тым, што яна «сьвядома пакінула Сяргея Каваленку без неабходнай і відавочна не адкладнай дапамогі» (арт. 159 КК РБ). Левінаў тлумачыць, што Сяргей Каваленка неаднаразова заяўляў судзьдзі пра тое, што знаходзіцца ў небясьпечным для жыцьця стане, і патрабаваў неабходнай неадкладнай дапамогі ў цывільнай лячэбнай стацыянарнай установе. Сьцьвярджаў, што, знаходзячыся пад вартай, ня зможа правільна, без наступстваў для яго здароўя, выйсьці з галадоўкі пратэсту, нават калі прыме такое рашэньне. Судзьдзёй Жук рашэньне аб неабходнай і відавочна не адкладнай дапамозе Сяргею Каваленку прынятае не было.

Адмовіліся дапамагчы галадоўніку і мэдыкі хуткай мэдычнай дапамогі, якіх выклікалі да будынку суду 23 лютага. Лекары адмовіліся нават зірнуць на абвінавачанага. Акрамя таго, не назваліся і не патлумачылі матываў адмовы (Левінаў прыклаў да заявы фота лекараў). Як лічыць праваабаронца, учынак мэдыкаў утварае склад крымінальна каральнага дзеяньня, адказнасьць за якое вызначаная артыкулам 161 КК РБ.

Яшчэ адна заява праваабаронцы ў сьледчы камітэт па Віцебскай вобласьці тычылася стану дзяржаўнага сьцягу над уваходам у суд: «У пэрыяд з 21 па 24 лютага 2012 году ў будынку суду Першамайскага раёну адбываўся міліцэйска-судовы працэс над Грамадзянінам Рэспублікі Беларусь Сяргеем Каваленкам, які нібыта ўхіляўся ад адбыцьця пакараньня за вывешваньне Нацыянальнага Сьцягу Рэспублікі Беларусь на навагодняй ёлцы гораду Віцебску. Адбываўся ў будынку, над уваходам у які лунаў абадраны Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь. Неаднаразовыя патрабаваньні да старшыні і работнікаў суду аб замене Дзяржаўнага сьцягу Рэспублікі Беларусь ні да чаго не прывялі».

«У гэтыя дні будынак суду наведвалі ня толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, але і грамадзяне іншых дзяржаў, у тым ліку дыпляматы», - гаворыцца ў заяве. На думку Левінава, старшыня Першамайскага суду такім спосабам наўмысна пазьдзекаваўся зь Дзяржаўнага сьцягу Рэспублікі Беларусь, што зьяўляецца крымінальным злачынствам (арт. 370 КК РБ).

# Віцебскія апазыцыянэры ня маюць згоды наконт свайго ўдзелу ў сёлетніх парлямэнцкіх выбарах




"Выбары бяз выбару" - такую тэму мелі дэбаты, што адбыліся 9 лютага ў "Эўрапейскім клюбе" Віцебску. Удзел у дэбатах узялі мясцовыя лідэры апазыцыйных палітычных партыяў і грамадзянскіх ініцыятываў. Удзельнікі дыскусіі выказалі аднамыснасьць у ацэнцы маючых адбыцца праз некалькі месяцаў парлямэнцкіх выбараў: няма ніякіх падставаў спадзявацца на тое, што гэтыя выбары будуць сумленнымі і справядлівымі.

Тым ня менш, што да свайго падыходу да ўдзелу ў выбарах, прадстаўнікі розных партыяў і рухаў да згоды пакуль так і прыйшлі. Зрэшты, такой мэты і ня ставілася. На думку арганізатараў дыспуту, галоўнае - падчас сустрэчы яе ўдзельнікі змаглі пачуць адно аднаго, узважыць аргумэнты кожнага.

За ўдзел у выбарах выказаўся віцебскі лідэр партыі "Справядлівы сьвет" Мікалай Селівашка. Таксама пра намер вылучыць сваіх кандыдатаў у дэпутаты і прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі выказаліся старшыня абласной суполкі партыі БНФ Кастусь Смолікаў, кіраўнік мясцовай арганізацыі АГП Уладзімер Аляксеенка, актывіст кампаніі "Гавары праўду" Сяргей Парсюкевіч і віцебскі каардынатар руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў.

Прыхільнікі ўдзелу заявілі, што, вылучыўшы сваіх кандыдатаў у дэпутаты, яны змогуць цягам выбарчай кампаніі больш эфэктыўна інфармаваць насельніцтва пра сытуацыю ў краіне. Аднак калі ня будуць выпушчаныя на свабоду палітвязьні і калі прадстаўнікі апазыцыйных партыяў ня будуць уключаныя ў склады выбарчых камісіяў - яны да пачатку галасаваньня зьнімуць сваіх кандыдатаў.

Сябра аргкамітэту па стварэньні БСДП (НГ) Аляксей Гаўруцікаў прапанаваў ня толькі выставіць уладам пэўныя патрабаваньні, але таксама абумовіць тэрміны, у якія кожнае з патрабаваньняў павінна быць выкананае. Калі ўлады ў пазначаныя тэрміны ня вызваляць палітвязьняў, не ўнясуць зьмены ў выбарчы кодэкс, не ўключаць апазыцыянэраў у выбарчыя камісіі - тады трэба пераходзіць да байкоту выбараў. Зрэшты, сказаў спадар Гаўруцікаў, ён толькі выказвае сваю асабістую думку, фармат удзелу партыі ў выбарах яшчэ ня вызначаны яе кіраўніцтвам.

За байкот выбараў рашуча выступіў віцебскі лідэр КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў. Яго падтрымала абласная каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Таццяна Севярынец. "Але байкот мусіць быць актыўным!" - падкрэсьліла яна. За байкот выказалася і актывістка "Народнага сходу" Ірына Яскевіч.

Магчымасьць выказаць свае меркаваньні атрымалі ня толькі лідэры партыяў і рухаў, але таксама кожны ахвотны зь ліку прысутных. На думку ўдзельнікаў сустрэчы, яна была вельмі карысная. Арганізатар мерапрыемства Хрыстафор Жаляпаў сказаў, што мяркуецца ладзіць гэткія сустрэчы і ў будучыні.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта «Віцебская Вясна» і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.